# Голас Радзімы

№ 50 (2192)
13 снежня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Каварны атам Чарнобыля пакінуў свой злавесны след на многіх сотнях кіламетраў. Стварыў так званыя плямы, дзе небяспечна і жыць, і збіраць ураджай на палях, і карыстацца дарамі лясоў.
Да такіх мясцін адносіцца Валожыншчына, што пад Мінскам. Не ўсё, што тут вырасла сёлета, можна было спажываць. Але валожынцаў не пакінулі ў бядзе. Літаральна з усіх куткоў краіны прыйшла дапамога. І, натуральна, перш за ўсё дзецям, якія найбольш успрымлівыя да радыяцыі.
На гэтым здымку вы бачыце выхаванцаў дзіцячага сада Пяршайскага сельскага Савета Валожыншчыны, якія атрымалі вінаград з Сярэдняй Азіі.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

## УПЕРШЫНЮ Ў КОСМАСЕ



**На арбітальным пілатуемым комплексе «Мір» гасціў японскі журналіст Таяхіра Акіяма. Ён быў дастаўлены на савецкую касмічную лабараторыю ў касмічным караблі «Саюз ТМ-11», запушчаным 2 снежня 1990 года. Кіравалі караблём яго камандзір Віктар Афанасьеў і бортінжынер Герой Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт СССР Муса Манараў.**

**Работа японскага журналіста на савецкім арбітальным комплексе працягвалася да 10 снежня. У час, калі карабель праходзіў над Японіяй, Таяхіра Акіяма праводзіў для сваіх суайчыннікаў тэлевізійныя рэпартажы з космасу.**

**НА ЗДЫМКАХ: першы журналіст — касма[…] Таяхіра АКІЯМА разам з Віктарам АФАНАСЬЕВ[…] і Мусой МАНАРАВЫМ.**

## АДКРЫТАЕ ПІСЬМО

# ВОСТРЫ БОЛЬ

**Наша стаматалогія аказалася ў зусім жабр[а]кім стане. На карыес і паражэнні парадонта пакутуе ўсё дарослае насельніцтва. 25 працэнтаў людзей маюць прыроджаныя дэфекты твару і шыі, што прыводзіць да працяглай непрацаздольнасці. К 40 гадам у чалавека адсутнічае ў сярэднім 5-6 зубоў. Ва ўсім цывілізаваным свеце ў такім выпадку дапамагае імплантацыя, але гэтая галіна ў нас пакуль у зародышы. Нізкім застаецца якасць пламбіравальнага матэрыялу, пацыент вымушаны часта «латаць» адзін і той жа зуб.**

**Гэта радкі са звароту групы вядучых урачоў рэспублікі ў Вярхоўны Савет БССР. У адкрытым пісьме яны прапануюць прыняць Закон аб дазволе прыватнай практыкі, палепшыць матэрыяльнае становішча ўрача-стаматолага, які атрымлівае 140 рублёў у месяц, — утрая менш за рабочага.**

## ЖАБРАЦКАЯ ДОЛЯ

# ДАР ІААНІТАЎ

**Ля Кафедральнага сабора на плошчы Свабоды ў Мінску адбылася цырымонія перадачы і асвячэння дару евангеліцкага ордэна іаанітаў беларускаму народу — 50 тон прадуктаў, якія даставіў у мінскі аэрапорт ІЛ-76. Гэта быў першы самалёт з прадуктамі харчавання ад жыхароў Германіі. Дабрачынная акцыя праводзілася ў межах гуманітарнай дапамогі народам СССР.**

**У перадачы дару прынялі ўдзел Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі народны дэпутат БССР Філарэт, прадстаўнікі генеральнага консульства ФРГ у Мінску, кіраўнік евангеліцкага ордэна іаанітаў фон Блок Шлезнер.**

## АЎКЦЫЁН

# СКАКУНЫ НА ПРОДАЖ

**Удзельнікі аднаго з аўкцыёнаў, што адбудуцца ў Германіі, здзівіліся, калі на продаж былі прапанаваны спартыўныя коні з Беларусі. Да апошняга часу рэспубліка нават не спрабавала выходзіць на міжнародны рынак з такім таварам. А тут — цэлы табун выдатных скакуноў. Неўзабаве ўсе коні былі куплены. І хаця цану за іх далі не самую высокую, прадаўцы засталіся задаволенымі — гэта ж толькі пачатак.**

**На міжнародным рынку Беларускі аграпром больш вядомы як пастаўшчык сыравіны і паўфабрыкатаў. Гандаль конямі — адна з першых удалых спроб выйсці за рамкі «сыравіннага экспарту». Сваіх гадаванцаў у Германію адправілі конезавод імя Даватара, калгасы «50 гадоў Кастрычніка» Маладзечанскага і «Камунар» Навагрудскага раёнаў. Прыняўшы ўдзел у аўкцыёне, гаспадаркі заявілі аб сабе як аб выгадных гандлёвых партнёрах. З прапановамі аб куплі коней у Беларусь ужо звярнуліся фірмы з Італіі, Фінляндыі, ЗША, Японіі.**

*«Мы ўдзячныя палітыцы М. С. Гарбачова за тое, што сталі такімі смелымі і раскаванымі. Але зноў забыліся адну з хрысціянскіх запаведзей — не ствары сабе куміра — і паўтараем памылкі мінулага. Раней Сталін, Брэжнеў, а цяпер Гарбачоў вядзе краіну па шляху, вядомаму толькі яму. А мы ўсе чакаем, што прапануе Генсек. І зноў усё добрае, усё дрэннае звязваем з адной асобай. У любой галіне спачатку была тэорыя, потым пачыналася практыка. Колькі дзён і начэй думаў У. І. Ленін над тэорыяй сацыялістычнай рэвалюцыі. Мы перабудову дэкларавалі, папярэдне не зрабіўшы нават накідаў неабходных рэформ у эканоміцы, дзяржаўнай будове, ва ўнутранай палітыцы, не спрагназіраваўшы магчымасць вынікаў. Так, патрэбна была смеласць, каб заявіць на ўвесь свет: так жыць больш нельга. Але яшчэ большая смеласць кінуць такую велізарную краіну ў свабодны дрэйф. Так, не ўсё можна было прадбачыць адразу, але выпрацаваць праект, па якім КПСС хоча павесці народ і пабудаваць новы Саюз, за 5 гадоў яна была павінна, і ў імя гэтага павінны былі працаваць вядучыя інстытуты, вучоныя-практыкі ў галіне эканомікі, дзяржавы, права і г. д. Гэтага зроблена не было. Чаму? Незразумела. Ці М. С. Гарбачоў не хацеў аддаць першынство, ці вельмі шмат часу займалі зарубежныя турнэ, мэтай якіх з'яўляецца будаўніцтва агульнаеўрапейскага дома, а будаўніцтва новага Саюза адкладваецца на потым, або ў яго камандзе мала аднадумцаў, здольных падтрымаць і развіць яго ідэі, ці, што хутчэй за ўсё, і сам ён не прадугледжваў, ды і цяпер не мае канкрэтнага плана перабудовы нашага грамадства. Дарэчы, многія пачынаюць задумвацца над феноменам асобы М. С. Гарбачова, які заключаецца ў тым, што яму многае ўдаецца ў міжнародных справах і вельмі мала ў сябе дома.*

*Зневажальна для краіны, для нашага народа атрымліваць падачкі ад іншых дзяржаў у выглядзе долараў, збожжа, пральных парашкоў, зубной пасты, інвалідных калясак. Хочацца сказаць сабе, народу і М. С. Гарбачову: выхад з крызісу трэба шукаць не ў дадатковых зарубежных субсідыях, не ў п[а]дачках за адступленне ў галіне ўнутранай [і] знешняй палітыкі, а ва ўласным народзе і ва ўласнай зямлі».*

*(З выступлення А. ПРОСІНАЙ, першага сакратара Светлагорскага гаркома КПБ на XXXI з'ездзе Кампартыі Беларусі).*

## НОВАЯ ПРАДУКЦЫЯ

# «КАНТАКТ» З МАГІЛЁВА

**Першая ў нашай краіне магутная вытворчасць па выпуску тэкстыльных засцежак «Кантакт», якія называюцца ў народзе «ліпучкамі», уступіла ў строй на Магілёўскай стужкаткацкай фабрыцы. Яе праектная магутнасць — шэсць мільёнаў пагонных метраў крапежнага матэрыялу.**

**Абсталяванне для новай вытворчасці набыта ў японскай фірмы «Марубені». Яе спецыялісты сумесна з магілёўскімі за тры месяцы змантыравалі ўвесь комплекс і запусцілі яго ў работу. Ужо выпушчаны першыя сто тысяч метраў крапежнага матэрыялу. Сучасныя засцежкі знойдуць шырокае прымяненне, пачынаючы ад касманаўтыкі і канчаючы выкарыстаннем у быце, у верхнім адзенні, абутку і іншых вырабах.**

## ВЫСТАЎКІ

# ЁСЦЬ ШТО ПАКАЗАЦЬ

**Фізіка і медыцына. Гэтыя, здавалася б, разнародныя паняцці знайшлі адзінае ўвасабленне ў экспанатах выстаўкі медыцынскай фізіятэрапеўтычнай навукі, што нядаўна адбылася ў Мінску. Арганізавалі мерапрыемства Акадэмія навук і Міністэрства аховы здароўя БССР, фонд «Дзеці Чарнобыля».**

**У цэнтры ўвагі наведвальнікаў выстаўкі — а для яе агляду і ўдзелу ў тэматычным навукова-практычным семінары прыехалі спецыялісты нашай рэспублікі, а таксама Масквы, Ленінграда, іншых гарадоў СССР — аказалася апаратура нямецкай фірмы «Цымер электрамедыцын». Па сутнасці справы гэта ўкамплектаваны ўсім неабходным кабінет для фізіятэрапеўтычнага лячэння самых разнастайных захворванняў. Немалую цікавасць выклікала і беларуская распрацоўка — апарат для ўздзеяння імпульсным магнітным полем, які павышае эфектыўнасць лячэння перыферыйнай нервовай сістэмы, апорна-рухальнага апарату.**

**Выраб апарата ўжо асвоены ў рэспубліцы. З дапамогай фірмы «Цымер электрамедыцын» ён будзе выпускацца і за мяжой.**

## ЭФЕКТЫЎНАЕ АБСТАЛЯВАННЕ

# «ДЗЮРКААП», «АРНЕЛЬ», «ІНВЕСТРОНІКА»...

**Гэтыя і іншыя назвы замежных фірм непрыкметна ўвайшлі ў лексікон рабочых і служачых Магілёўскай швейнай фабрыкі, асабліва ў цэху вытворчасці жаночага і верхняга дзіцячага адзення.**

**Доўгія гады калектыў гэтага прадпрыемства марыў аб замене маральна састарэлага абсталявання на сучаснае, пажадана імпартнае. Лёд, нарэшце, крануўся. На выдзеленыя міністэрствам інвалютныя сродкі закуплены высокакласныя швейныя машыны, абсталяванне для раскрою тканін, сістэмы аўтаматызаванага праектавання раскладак лякал і кіравання вытворчасцю.**

**Пастаўшчыкі абсталявання — ФРГ, Швецыя, Іспанія, больш дакладна, іх шырока вядомыя фірмы «Дзюркаап», «Гофман», «Арнель», «Інвестроніка» і іншыя.**

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

**◆ У саставе АН БССР маюцца 33 навуковыя ўстановы, адно — цэнтральнае і 7 — спецыяльных канструктарскіх бюро, адна — гаспадарча-разліковая вопытная вытворчасць. У навуковых установах акадэміі працуюць звыш 11 тысяч чалавек, у тым ліку — 6 200 навукоўцаў; сярод іх — 55 акадэмікаў, 96 членаў-карэспандэнтаў АН БССР, 361 доктар і 2 540 кандыдатаў навук.**

**◆ На пастаяннае месца жыхарства з Беларусі цяпер выязджае за адзін месяц столькі людзей, колькі раней за год. Яшчэ нядаўна ў краіны Усходняй Еўропы пагасцяваць выязджала 7 тысяч чалавек за год. Зараз — у дзесяць разоў больш. 80 працэнтаў такіх вандроўнікаў адпраўляюцца ў Польшчу. Відаць, таму, што ў суседзяў можна выгадна прадаць розны дэфіцытны тавар, які паранейшаму ракой плыве праз граніцу.**

**◆ Пад Мазыром, у Свята-Міхайлаўскім саборы, у трыццатыя гады размяшчалася мясцовае энкавэдэ (НКУС), дзе дапытвалі і расстрэльвалі нявінных людзей. У Міхайлаў дзень тут адбылося ўрачыстае богаслужэнне ў памяць аб ахвярах сталінскіх рэпрэсій, яго вёў епіскап Гомельскі і Мазырскі Арыстарх.**

## СКАЎТЫ Ў МІНСКУ



**Па запрашэнню розных грамадскіх арганізацый 15 краін Заходняй Еўропы летам гэтага года там адпачывала больш за 12 тысяч дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. 1 235 з іх былі запрошаны нацыянальнымі асацыяцыямі скаўтаў.**

**І вось у Мінск прыехалі прадстаўнікі нацыянальных скаўцкіх асацыяцый краін Заходняй Еўропы, Канады, ЗША, Чылі, Паўднёвай Карэі. Яны прынялі ўдзел у абмеркаванні вынікаў міжнароднай акцыі «Салідарнасць з дзецьмі Чарнобыля».**

**НА ЗДЫМКУ: хлебам-соллю сустракаюць гасцей на беларускай зямлі. У цэнтры — генеральны сакратар міжнароднай арганізацыі руху скаўтаў Жак МАРЭЛЬОН (справа) і Альберт ЛІХАНАЎ.**

## ДЛЯ ТЫХ, ХТО ПРОСІЦЦА Ў КАНАДУ

# БУДЗЕМ РАІЦЬ

**Амаль штодня ў рэдакцыю заходзяць і званяць людзі з адзінай просьбай: «Дайце адрас беларускай арганізацыі, якая дапамагае выехаць у Канаду!» Нашы адказы не заўсёды пераконваюць наведвальнікаў. Таму прапануем ім нататкі чалавека «адтуль» — рэдактара часопіса «Зважай», што выдаецца ў Таронта, Кастуся АКУЛЫ.**

Мы атрымліваем шмат лістоў, шматлікія землякі, спасылаючыся на пагрозу чарнобыльскае радыяцыі, просяць у нас дапамогі, каб як найскарэй перабрацца сюды.

Вось чаму хачу хоць збольшага паінфармаваць пра тое, як выглядае справа іміграцыі ў Канадзе.

Краіна гэтая па тэрыторыі другая ў сьвеце, мае ўсяго 26 мільёнаў жыхароў, восьмая частка зямлі культывуецца. Бальшыня насельніцтва жыве на сумежжы з ЗША. Горад Таронта з трыма мільёнамі насельнікаў і правінцыя Антарыё зь дзевяцю мільёнамі — гэта індустрыйны рухавік краіны. Пераважна сюды і прыбываюць новыя іміграНты.

Пасьля апошняе вайны пераважала іміграцыя з Заходняе Эўропы; трапіла сюды й невялікая колькасць беларусаў, якіх Сталіну пры дапамозе заходніх хаўрусьнікаў не ўдалося палавіць ды адправіць на Сібір. Паводле савецкіх зьвестак, зь Нямеччыны вярнулася на Бацькаўшчыну 330 тысяч беларусаў. Бальшыня зь іх вярталася пад прымусам. Тыя ж, каму, як «перамешчаным асобам», удалося высьлізнуць з бальшавіцкіх лапаў, а таксама былыя жаўнеры з Брытанскае арміі (польскага корпусу) трапілі часткова і ў Канаду.

У цяперашні час Канада бярэ ў год каля 200 тысяч імігрантаў, пераважна з Ган Конгу, Індыйскага субкантынэнту, Афрыкі, Карыбскіх астравоў. З Эўропы шмат менш.

Лепшыя шанцы маюць тыя, што маюць тутака сваякоў ці прынамсі, людзей, якія гарантуюць ім працу й памешканьне. У Канадзе цяпер 10 працэнтаў беспрацоўных, на якіх выдаткоўваецца 10 мільярдаў даляраў у год. Ёсьць недахоп працоўных рук ці, калі хочаце, галоваў у кампутарнай індустрыі. Сярэдняя плата работніка ў індустрыі цяпер 15 даляраў у гадзіну, мінімум — 4,5 даляра. Не хапае рук у нізкаплатных прафэсіях пры апрацоўцы зямлі ў горадзе — у так званай «сэрвіс індустрыі». Пражыць у такім горадзе як Таронта каштуе вельмі шмат — ці не найдаражэй на амэрыканскім кантынэнце.

Асобна трэба казаць пра так званую нелягальную іміграцыю. Што гэта такое? А вось прыяжджае сюды нехта на візыт, скажам, на месяц ці два, а пасьля йдзе ў іміграцыйнае бюро ды заяўляе, што з прычынаў палітычных рэпрэсіяў удома ён ёсьць фактычна палітычным уцекачом і жадае застацца ў Канадзе. Бывае і інакш. У межах дзяржавы зьяўляюцца дзіркі, праз якія пралазяць тысячы гэткіх «палітычных» уцекачоў. Прыкладам, летась у правінцыі Нюфаўндленд, у аэрапорце Гандэр, дзе пры лёце з Масквы на Кубу сядае савецкі Аэрафлот, утварылася такая «дзірка». Пакуль канадыйцы пастанавілі дзірку залатаць, дык з гэнага Аэрафлоту было налезла некалькі тысячаў баўгараў, туркаў і палякаў. Праўда, нікога зь іх не дэпартавалі.

Што ж адбываецца з тымі «нелягаламі»? Пакуль яны пройдуць праз іміграцыйнае сіта, гады два ці тры, а то й даўжэй трэба «рабіць бакамі». Ня маеш права працы, бо ня маеш права ўезду. Мусіш задавальняцца самымі нікчэмнымі і нізкаплатнымі заняткамі. І калі ты не крыміналіст, не наркаман, а здаровы, сумленны й працавіты чалавек, можаш дзесьці прыладзіцца даіць кароў і кідаць гной, альбо працаваць у горадзе — у якім рэстаране ці шпіталі.

Цяпер такіх «нелягалаў», якія паволі праходзяць праверку ў Канадзе, каля 80-ці тысячаў. Лік іх не зьмяншаецца. Жывецца ім нясоладка.

Вось каротка і ўсё. Пра лягальныя шляхі пераезду сюды можаце даведацца ў нашым пасольстве. А тым, хто так ці інакш апынецца тут, будзем раіць як пражыць ды ўкараніцца паміж нас.

**Кастусь АКУЛА.**

«Свабода».

## «БЕРШЧЫНА» ШУКАЕ ПАРТНЁРА

Аб сувязях рэспублікі з суайчыннікамі, якія жывуць на Беласточчыне, на старонках «Голасу Радзімы» гаворыцца даволі часта. І гэта зразумела: параўнаўча нядаўна наладжаныя кантакты заслугоўваюць таго сваёй змястоўнасцю, шматбаковасцю, пошукамі новых шляхоў ва ўзаемаадносінах. Апошняе — надта важны момант. Асабліва калі ўлічваць тыя змяненні, што маюць месца ў Польшчы і на Беларусі, калі глядзець на іх праз прызму трывогі, напружанасці і складанасці сённяшняга дня. І, які б прагноз хто ні рабіў, гэты дзень патрабуе ад кожнага: будзь руплівым, дбайным, вастры думку, працуй. (Бо даўно і не намі праўдзіва сказана: пад ляжачы камень вада не цячэ). І новыя шляхі дзейнасці адкрыюцца. Напрыклад, нядаўна ў межах супрацоўніцтва з БГКТ Беларускае таварыства «Радзіма» запрасіла на Міншчыну невялікую групу членаў сельскагаспадарчага кааператыва «Бершчына» з-пад Гайнаўкі. Безумоўна, таварыства непасрэдны ўдзел у вырашэнні аграрных пытанняў ніяк не бярэ. Аднак, выступіўшы ў ролі пасрэдніка, дапамагло гайнаўчанам знайсці дзелавога партнёра. Ім стаў саўгас «Ракаўскі», што пад Мінскам.

— Мы хочам як мага бліжэй пазнаёміцца з саўгасам, наладзіць гаспадарчыя сувязі, у якіх маем патрэбу,— растлумачыў мне мэту прыезду кіраўнік групы Віктар Вапа. І дадаў, што кааператыў «Бершчына» невялікі: 300 гектараў ворыва, свінні, птушкі, тэхніка і г. д. З усім гэтым спраўляецца ўсяго 25 чалавек. Да таго ж, апроч хлеба надзённага, не цураюцца яны і духоўнага: дапамагалі, як маглі, у будаўніцтве Беларускага музея ў Гайнаўцы. Тым болей, што старшыня грамадскага камітэта па пабудове Кастусь Майсеня пэўны час быў і старшынёю «Бершчыны».

...Ці варта многа гаварыць, што мы ў Беларусі ўважліва сочым за працэсамі аднаўлення ў Польшчы. Бо кепскі той гаспадар, хто не вучыцца лепшаму ў суседзяў. Вось толькі беларусы Польшчы ўжо праходзяць «рэабілітацыю» пасля балючай «шокавай тэрапіі», а іх савецкія землякі толькі пачынаюць уваходзіць у рыначныя адносіны. І гэтыя першыя крокі адзываюцца болем, мала што не трацім прытомнасць: параліч улады, крызісы, можна сказаць, заблудзіліся... І мне было цікава ведаць, як хутка польскае грамадства папраўляецца.

З адказу даведаўся, што янс жыве лепш, чым раней. Рынак напоўніўся ўсялякім таварам як польскім, так і імпартным. А таксама і савецкім (з рук нашых суграмадзян), якога на айчынных прылаўках са свечкай не знойдзеш. Увішныя ж прадпрымальнікі з польскага боку робяць вялікі бізнес на перапродажы, скажам, «беларуска-савецкіх» лісічак. І грыбамі там, вядома, не абыходзіцца...

Тавары ёсць, але бракуе грошай...

Што датычыць кааператыва «Бершчына», дык і ў яго сур'ёзныя цяжкасці: няма куды збываць прадукцыю. У гэтым рэчышчы гайнаўчане спадзяюцца на прамое супрацоўніцтва з саўгасам «Ракаўскі»

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

## З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

# КАМУ ПАТРЭБНА ВУНІЯ?

Кожны сьведамы і шчыры беларус на Бацькаўшчыне і за мяжой з вялікім энтузыязмам успрыняў вестку аб заснаваньні ў Менску Беларускага Народнага Фронту. Народная арганізацыя, маючая на мэце «Адраджэньне» нацыянальнага, духовага і маральнага жыцьця ёсьць патрэбная, каб абудзіць людзей з застою, дрымучага летаргу. У праграме БНФ увайшло многа патрэбных і рэальных мерапрыемстваў і рэзалюцыяў.

Але, вось у газэце «Беларус» № 361, за жнівень 1989 год, у разьдзеле «Рэзалюцыя аб свабодзе сумленьня і беларусізацыі рэлігійнага жыцьця на Беларусі» чытаем: «БНФ адзначае, што гвалтоўная ліквідацыя ў 1839 і ў 1946 гадох вуніяцтва абмежавала свабоду веравыхаваньня жыхароў Беларусі, разьяднала народ, пазбавіла рэлігійнае жыцьцё краю яго нацыянальнай асновы. Адсутнасьць такой асновы і сёньня не садзейнічае адзінству».

У папярэднім нумары «Беларуса» знайходзім, што адзін з намеснікаў сойму БНФ, Юры Хадыка «...выказаўся за аднаўленьне грэка-каталіцкае царквы на Беларусі».

Тут трэба станоўча сьцьвердзіць, што калі БНФ зойме такое становішча ў сваёй рэлігійнай праграме, то гэта не паслужыць зьяднаньню беларускіх нацыянальных сілаў, а наадварот, увядзе разлад і нязгоду.

Пасьля паўвяковага прыгнёту цяпер наступіла мажлівасьць нацыянальнага адраджэньня. Ідзе змаганьне за нацыянальны суверэнітэт і праўнае становішча беларускай мовы. У гэтым змаганьні патрабуецца кансалідацыя народных патэнцыялаў і мэтазгоднасьць працы.

Але, замест гэтага, БНФ у сваім вышэй згаданым «адзначэньні» уводзіць рэлігійную палярызацыю праз прапагацыю вуніі, якая фактычна зьявілася на Беларусі ў той час, калі Польшча скіравала сваю палітыку на Усход. Вунія ніколі не была выяўленьнем волі праваслаўнага беларускага народу, яго інтарэсаў, але інтарэсаў імпэрыялістычнай Польшчы і экспансыўнага Ватыкану. Інакш кажучы, вунія была чужой агэнтурай на Бе[illegible]усі, а яе лідэры былі пр[illegible]днымі работнікамі Рэчы [illegible]аспалітай і Ватыкану.

Ці-ж факты гісторыі нашага народу не навучылі нас нічога з горкага мінулага? Ці-ж вуніі дзяржаўныя і рэлігійныя не давялі наш наро[illegible] стагнацыі, палянізацыі і за[illegible]ду нашай дзяржаўнасьці і мовы? Як піша дэ Брэй: «Пасьля ўстанаўленьня вуніяцкай /Грэка-каталіцкай/ царквы пры канцы шаснаццатага стагодзьдзя, беларуская літаратурная мова пачынае моцна палянізавацца пад уплывам польскіх езуіцкіх пісьменьнікаў. Гэта можна бачыць у шматлікіх «інтэрмэдыях» і «школьных драмах» таго часу, якія захаваліся да нашых дзён у манускрыптах пісаных лацінскім альфабітам». /«Гайд то ді слявонік лянгвічэс» — Праваднік да славянскіх моваў», стр. 130/.

Відаць, ня ўсе яшчэ пазналі гісторыю вуніяў. Стан беларускага народу ў канцы XVIII-га стагодзьдзя выглядаў мізэрна і жалюгодна. Калі палянізацыя асягнула свае максымальныя прадзелы, наша мова ледзь захавалася пад саламянай страхой. Тады-ж і вуніяцтва зышло да «веры мужычнай» /глядзі «Беларуская Царква», № 29, стр. 25/ — гэта ёсьць вуніяцкі пэрыёдык.

Для тых, хто ня ведае беларускай гісторыі і каб ня быць галаслоўным у вышэй пастаўленых закідах, няхай гавораць цытаты з прыведзеных гістарычных крыніц.

Паводле каталіцкай статыстыкі, у канцы XVIII-га стагодзьдзя на Беларусі налічвалася 1,5 мільёнаў католікаў, 2,5 мільёнаў вуніятаў і 300 тысяч праваслаўных /Беларуская Царква, № 29, стр. 24/.

З гэтага відаць, што Беларусь, ужо ў той час, страціла 1,5 мільёнаў людзей на карысць Польшчы. Усе былі апалячаныя, а сярод іх, большасць беларускіх князёў, шляхты і рознае знаці. На гэтую тэму Нісбэт Вэйн пісаў: «Вялікай перашкодай у пашырэньні цывілізацыі ў Вялікім Княстве была вайна дзьвёх варожых вераў, Рыма-Каталіцкай і Грэка-Праваслаўнай. Ад пачатку вуніі наварачваньне на каталіцызм у Літве суправаджалася наданьнем абшырных маёнткаў і мэсцаў у Сэнаце. Сыны гэтых бацькоў рэнэгатаў зайздросна пільнавалі свае даміна цыі і бяз міласьці прасьледавалі сваіх паніжаных праваслаўных братоў, якія састаўлялі чатырыпятыя існуючага насельніцтва». («А Палітыкал гісторы оф Поланд энд Раша фром 1447 ту 1796». Палітычная гісторыя Польшчы і Расеі ад 1447 да 1796», стр. 67. Кэмбрідж, 1908).

Пад польскім націскам вуніяты аказаліся бязсільныя ў абароне ня толькі нацыянальных інтарэсаў народу, але і свайго вуніяцкага абраду перад лацінізацыяй і палянізацыяй. Як факт, у 1664 годзе вуніяцкі епіскап Якуб Суша пісаў да папы жалабу: «Жаляцца вуніяцкія епіскапы перад Богам, перад сьвятым айцом і сьв. Рымскай царквой, жаляцца бачучы, што ўсюды на нашай бацькаўшчыне знаходзіцца многа паноў лацінікаў, каторыя дамагаюцца перад Сьвятой Сталіцай Апостальскай, каб нас, вуніяцкіх епіскапаў скасаваць, а маёмасьць нашу прылучыць да біскупаў каталіцкіх і каб пакінуць нам толькі манахаў і белых папоў, але і іх паддаць пад уладу лацінікаў». («Кароткая Гісторыя Беларусі», Вільня 1910, стр. 78).

Пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе, у далучаных да Расеі тэрыторыях шматлікія вуніяты, цэлымі парафіямі далучаліся да Праваслаўнай царквы. Полацкі вуніяцкі архіепіскап Гераклі Лісоўскі пісаў аб гэтым у 1786 годзе Папу рымскаму, што вуніяцкая блытаніна царкоўных кнігаў і абрадаў, «...што сьвятар то новы абрад», спрычынілася да павароту да Праваслаўнай царквы 300 вуніяцкіх парафіяў. Пісаў ён, што людзі, калі пераходзілі ў праваслаўе казалі: «Мы ня хочам, каб нам служылі вунію, хай нам служаць праваслаўе».

Пасьля другога падзелу Рэчы Паспалітай, толькі за паўгода, ад жніўня 1794 да сакавіка 1795 году, пакінула вуніяцтва амаль 1,5 мільёна душ.

Пасьля апошняга падзелу Польшчы ў 1795 годзе, ня ўсе вуніяты перайходзілі дабравольна. Была і апазыцыя да якой расейскі ўрад прымаў меры перакананьня і насільля. Тых, каго пер[illegible]лі, самі зьліквідавалі вуні[illegible]а апошнім полацкім вуніяцкім саборы 12-га лютага 1839 году. Акт павароту да праваслаўя падпісалі 3 вуніяцкія епіскапы: Язэп Семашка, Васіль Лужынскі і Антон Зубко, а таксама [illegible]0 асобаў вышэйшага духав[illegible]а.

Тыя вуніяты, што не хацелі вярнуцца да веры прадзедаў, перайшлі ў рыма-каталіцтва і былі апалячаны польскімі ксяндзамі. Такіх было каля паўмільёна.

У заключэньні можна сьцьвердзіць, што беларускі народ за два з паловай стагодзьдзяў, ад Берасьцейскай вуніі (1596) да Полацкага сабору (1839), перанёс і перацярпеў накінутую яму вунію. З вуніяй ішлі ў пары рэлігійны закалот, прыгнёт, лацінізацыя і палянізацыя, якія перацягнулі ў свой лагер каля 2-х мільёнаў беларусаў. Гэтыя людзі, іхнія дзеці, унукі і праўнукі сталіся з часам фанатычнымі ворагамі ўсяго беларускага.

Вось што піша былы вуніяцкі епіскап Язэп Семашка ў сваіх успамінах: «Некалькі стагодзьдзяў рускі (беларускі) народ гэтага краю (Беларусі) знайходзіўся пад прыгнётам Польшчы. У гэты час, у яго аднялі ня толькі старыннае праваслаўе, за помаччу вуніі, але і напалі на яго родную мову. З гэтай мэтай вучылі гэты народ. У меру мажлівасьці, маліцца на польскай мове і, з бегам часу, ня толькі выняткавыя асобы, пераважна адукаваныя, але цэлыя парафіі і акругі, па розных мясцах, забылі свае родныя штодзённыя малітвы і карысталіся малітвамі на польскай мове». (Кіпрыяновіч, «Жыцьцё Язэпа Семашкі...», Вільня, 1897, стр. 421).

Далей еп. Семашка піша: «На ўсёй прасторы Літоўскай епархіі (г. зн. Беларусі) усё духавенства (вуніяцкае) гутарыла на польскай мове і зусім ня ведала мовы рускай»,— разумеецца беларускай.

**М. ГАХОВІЧ.**

«Голас часу»,
Лондан.

(Заканчэнне будзе).

**Матэрыялы «Будзем раіць» і «Каму патрэбна вунія» друкуюцца з захаваннем мовы арыгінала.**

# 'They Washed Their Hands With Grain Alcohol After Every Execution...'

**His home is a former prison, and it still looks like a prison today. A long corridor, with cells to the right and left. A little trunk and a 1940s washstand at every door. Pyotr Klimov, b. 1910, a CPSU member since 1940, a former staff member of the NKVD, and an eyewitness to the execution of Polish officers in Katyn. So far he is the only person to have seen and reported about it. I haven't changed a single word in his testimonies—let them remain a dry and impartial document. This is more horrible, but I have to do it for those who still believe that the Gestapo, rather than the NKVD, is to blame for the Katyn tragedy.**

*To the Regional Commission Rehabilitating the Victims of Repressions in the Smolensk Region—from Klimov Pyotr Fyodorovich, b. 1910, CPSU member since 1940, residing at: 1 Neverovsky St., apt 4*

I worked at the NKVD-OGPU of the Smolensk Region as a yard keeper starting in 1933, then as a doorkeeper at Stelmakh's (commandant of the NKVD), I also worked at the NKVD after the war.

I remember washing away the blood of the executed. I was ordered to do this by Grigoryev, chief of the garage. I used to wash the 1.5-tonne and 3-tonne trucks. The bodies of the executed were usually loaded on these vehicles with the help of a conveyor to avoid carrying them on stretchers. This conveyor was built by Alkhimovich (he also supplied the little motor for it). Alkhimovich worked in the garage and was a jack-of-all-trades. Prior to this the bodies of the executed were carried from the NKVD basement on stretchers. Usually this was done by the drivers. The basement, where executions were performed, was under the building of the present-day Department of Internal Affairs of the Smolensk Region at Dzerzhinsky Street (third window).

In a little room in the basement there was a sewage hatch. A victim was brought in and the hatch was opened, then its head was laid on the edge and a shot was fired through the back of the head or the temple (in various ways). I remember a victim with his belly ripped off. I saw the traces of blood and a hole in the victim's temple.

The condemned was told that he was transferred to Moscow, stripped naked and then shot. I don't know what was done with the clothings.

Executions took place there starting in 1933. Especially there were many executions in 1933 through 1939. Practically every day towards evening people were shot and carried to Kozi Gory, with the executioners returning by 2 a.m. Piles of corpses were loaded onto vehicles, usually 30-40 bodies per truck. Then the corpses were covered with tarpaulin and taken away. Besides the driver, there were two or three persons and the commandant in the truck. In Kozi Gory there was also a whole squad (from among them I remember Belkin and Ustinov), they used to dig ditches and bury those shot in them. They lived right in Kozi Gory.

In Kozi Gory I saw these ditches full of bodies with my own eyes.

There were few burials in the Bratskoye Cemetery, the executed mainly taken to Kozi Gory. There are more than 10,000 executed Soviet citizens and others lying there. I was paid five roubles for washing the blood off motor vehicles. Those who did the executioning were also paid on the register, like those who carried away the bodies.

The executions were carried out (from among those whom I remember) by the following: Gribov, I. I. Stelmakh. Gvozdovsky, Karl Reinson. I have forgotten the others. The corpses were taken away by drivers: Kuleshov, Nikolai Kostyuchenkov, Titkov, Viktor Grigoryev. But Titkov usually drove superiors around. The bodies were also carried by Levchenkov, but he was killed by a prisoner who was a Pole, I believe. That prisoner remained alive by chance, then he made his way to the armoury and opened fire, wounding someone else—I don't know whom, I've forgotten.

They could not kill that prisoner for three days (they tried to flood him with water from a fire engine), then he was poisoned with gas.

Polish servicemen were sh[illegible] 1940 in Kozi Gory. They [illegible] gunned down by a team under Ivan Ivanovich Stelmakh, who was the commandant of the Smolensk NKVD. I myself was in Kozi Gory accidentally and saw a large ditch, stretching right up to a litle marsh, lying in piles in this [illegible], slightly covered with earth, were the Poles who had been shot right in the ditch. I know this because I saw the Poles' dead bodies (slightly covered with earth). I was told about the circumstances of the execution by Ustinov (he was a driver and carried the Poles to the execution site) who, as he himself said, saw how they were executed. From the vehicle they were unloaded right into the ditch and shot, some of them being finished off with bayonets. The execution site was enclosed with double rows of barbed wire. There were many Poles in that ditch (when I look into it), they were lying in a row, the ditch being 100 m long and 2-3 m deep. After I stole a look at the executed Poles, I was immediately sent away and told not to come any near.

At that time and after the war Stelmakh, Reinson, Gvozdovsky and Gribov repeatedly warned me about the need to keep silent.

Ustinov and Gribov told me that the Polish officers and men were shot by Stelmakh, Gribov himself, Gvozdovsky and Karl Reinson. They did most of the job during executions, I don't remember the others.

The Poles were brought for execution in carriages along a railway branch to the Gnezdovo station. The execution site was guarded by a convoy regiment of the NKVD.

Everything said by me is true. I understand I could be tried for libel. I have said the whole truth. This has been written down at my request (because my fingers don't bend) by Oleg Zakirovich Zakirov, and, having read everything over, I attest that it is all correct.

To the above I want to add that those shot people and who transported them were given grain alcohol and snacks free of charge. They also, I remember, used to wash their hands with grain alcohol after every execution.

I also rubbed my hands with alcohol after washing the blood away.

I kept grain alcohol at my place in the basement, whereas we obtained snacks (sausage, sturgeon and other foods) from the canteen.

The executed were also carried by Zinovyev (he is now about 70 and has left for Simferopol).

**Klimov P. F.**

August 29, 1990. Transcribed in the flat of Klimov P. F.

**ADDENDUM TO THE LETTER OF AUGUST 29, 1990**

I also want to say that, in 1943, I saw some five boxes at the NKVD club. Also then I learned that these boxes contained the sculls of the executed Poles and that they would be sent to Moscow for some examination. Later these boxes with sculls were again returned to Smolensk and taken back to Kozi Gory. At that time we were afraid to speak about this even one on one. I didn't know why this was done, and only now do I understand that this was done to pin the blame for everything (i. e., for the execution of the Poles), on the Germans. But the Poles were shot by our people in 1940. Part of the Polish chaplains was shot at the NKVD basement in Smolensk. I have no further addenda. This letter was put down by Oleg Zakirovich Zakirov at my home. Smolensk, 31.08.1990.

**ADDENDUM**

I also want to say that at the time when the Poles were executed, L. M. Kaganovich and Shvernik happened to be here, in Smolensk, in Kozi Gory—I remember them stunning fish in the Dnieper.

K. Ye. Voroshilov also spent his holidays in Kozi Gory.

31.08.1990

It's unbearable to read this, but it's even more unbearable to listen to a person telling with scrupulous punctuality about the circumstances attending the tortures of thousands of people. A tiny room in the communally shared former jail, a tiny pension, and fear which has not yet vanished.

"That's all," Klimov kept repeating every five minutes. "I'll say nothing more. They are still alive. They'll kill me."

"They are alive, they are still alive," I kept repeating all my way from Smolensk to Moscow. They are still alive, because Major Zakirov, who found Klimov, has now been expelled from the party and they want him dismissed from the KGB. This is what he gets for trying to get at the truth. Who's next?

But we are washing our hands, aren't we?

**Gennady ZHAVORONKOV**



*The only type of transport which Byelorussia does not have is sea transport. The principal means of communication is by rail. An architectural ensemble of the Minsk railway station was enlarged: a new 13-storeyed building has just appeared here.*
*ON PHOTO: a new administrative building; Tatyana VORONKO, chambermaid, shows the rooms.*
*Photo by V. ALESHKEVICH*



**AN ACADEMY OF ANTIQUE MUSIC**

Its students comprise about a hundred musicians who came to Minsk from different cities of the country. The one-year curriculum is designed to enhance the performance of young musicians, and familiarize them with outstanding works of antique music. Instruction is provided by eminent musicians from the Byelorussian Republic, Moscow, Leningrad and foreign countries.

**BYELORUSSIA'S CITY HERALDRY**

Another step has been made towards obliterating the blank spots in Byelorussian history. The Polymya (Flame) Publishing House has brought out a monograph, "Byelorussia's City Heraldry" by young historian A. Titov. This is the first Soviet book describing the heraldic symbols of municipal sovereignty.

The book traces the emergence and development of city coats of arms in Byelorussia. It contains brief alphabetically arranged historical accounts of the Byelorussian towns and settlements that previously had their own heraldic emblems.

Scholars are unanimous in regarding A. Titov's work as a remarkable contribution to the treasure-house of Byelorussia's historical science.

## У СКАРБНІЦУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

# ДАСЛЕДУЕЦЦА ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Лёс многіх людзей склаўся так, што ім даводзіцца жыць у краінах, дзе пераважаюць другія народы. У Савецкім Саюзе ў іншамоўных рэспубліках жыве звыш 60 мільёнаў чалавек іншых нацыянальнасцей, сярод іх і беларусы. Нямала беларусаў жыве ў Польшчы, асабліва ва ўсходняй Беласточчыне. Вельмі важна даследаваць іх духоўную культуру. Таму манаграфія А. Баршчэўскага «Беларуская абраднасць і фальклор усходняй Беласточчыны: радзіны, вяселле, смерць» (Беласток, 1990) уяўляе вялікую цікавасць для даследчыкаў, для нас, беларусаў.

Аляксандр Баршчэўскі — вядомы вучоны, філолаг-фальклярыст, паэт, аўтар многіх навуковых прац, некалькіх зборнікаў вершаў, якія ён напісаў на беларускай мове (псеўданім: Алесь Барскі), друкаваліся яго творы і ў нас. Нядаўна яму споўнілася 60 гадоў, падводзячы вынікі якіх, грамадскасць нагадала яго вялікія заслугі ў развіцці літаратуразнаўства, гісторыі літаратуры, фалькларыстыкі, а таксама ў паэзіі. З вялікай ашчаднасцю і любасцю рыхтаваў ён да друку беларускія народныя празаічныя творы з запісаў М. Федароўскага, А. Сержпутоўскага і іншых выдатных збіральнікаў беларускага фальклору і выдаў іх у Польшчы. Кнігі карысталіся попытам і хутка разышліся. Значную навуковую каштоўнасць маюць і яго тэарэтычныя працы, у якіх ён даследаваў важныя праблемы гісторыі фальклору і беларускай літаратуры.

У названай вышэй кнізе даследуюцца абрады і вусныя народныя творы беларусаў усходняй Беласточчыны — радзінныя, вясельныя, пахавальныя. А. Баршчэўскі нагадвае найбольш важныя фальклярыстычныя працы, апублікаваныя ў Польшчы, у якіх змяшчаліся або даследаваліся і беларускія народныя творы. Сярод іх фундаментальны збор Міхала Федароўскага, пяты — восьмы тамы якога былі выдадзены ў пасляваенныя часы. У кароткім гістарыяграфічным экскурсе ён сцісла характарызуе працы, у якіх даследаваўся фальклор Беласточчыны.

А. Баршчэўскі сканцэнтраваў увагу ў сваей манаграфіі на сямейных абрадах і паэзіі, якая ўваходзіць у гэтыя цыклы. Перш за ўсё ён прааналізаваў радзінна-хрэсьбінныя абрады і песні, якія сведчаць пра нацыянальную адметнасць у духоўнай культуры беларусаў, таму што лепш захаваліся, чым у іншых славян. Нагадаўшы працу Я. Карскага пра беларускі фальклор, аўтар адзначае, што яго погляды на радзінна-хрэсьбінную паэзію пацвярджаюцца вуснапаэтычным матэрыялам, сабраным на Беласточчыне. Адна з інфарматарак—Ганна Садоўская звязвае шчасце сям'і з нараджэннем дзяцей, адсутнасць якіх яна тлумачыць няміласцю Бога. У шматлікіх фальклорных творах, адзначае аўтар манаграфіі, выказваецца пажаданне маладой жанчыне нарадзіць сыноў і дачок. У адной з іх зычаць сям'і мець дзевяць сыноў і адну дачку. Абумоўліваецца гэта, на думку аўтара, практычнымі поглядамі сялян, якія лічаць, што з выхаваннем хлопцаў менш клопату, чым з выхаваннем дзяўчат. Вось думка Катарыны Мядзведзь: «Нашчадак мужчынскі намнога лепшы, чым жаночы. Толькі мужчыну, а не бабу людзі напраўду шануюць. Мужчыны менш грэшныя, чым бабы. То ж святыя і анёлы толькі з мужчын, а не з бабаў выводзяцца» (с. 21). Разам з тым у песнях адбілася і станоўчае стаўленне да мнагадзетнай сям'і, у якой не адна дачка: «У каго дочак сем — там доля ўсім. А я ў бацэнькі адна — мне долі няма».

Даследчык разглядае цэлы комплекс народных звычаяў, якія адлюстроўвалі адносіны да цяжарнай жанчыны, рэгламентавалі яе паводзіны. Ён прыводзіць распаўсюджаныя ў народзе абмежаванні і забароны цяжарнай жанчыне, якія, дарэчы, былі вядомы і ў іншых беларускіх рэгіёнах, як напрыклад: нельга глядзець на нябожчыка, інакш дзіця будзе недаўгавечным; не трэба глядзець на пажар, таму што дзіця будзе рудое; не дазваляецца ставіць адной нагой на парозе, бо дзіця будзе кульгавае; нельга насіць у падоле збожжа або які-небудзь корм для курэй, таму што дзіця будзе пакрывацца высыпкай, і г. д.

Комплексы звычаяў існавалі і для аблягчэння родаў, здароўя развіцця дзіцяці. Найбольш пашыраныя з іх аўтар кнігі называе. Як і папярэднія, амаль усе яны характэрныя для многіх беларускіх рэгіёнаў: да году не стрыгці ў дзіцяці валасоў; не калыхаць пустой калыскі, бо дзіця не будзе засынаць; перад хрышчэннем бацькі не павінны нікому нічога пазычаць і да т. п.

У песнях адлюстраваліся павер'і народа аб шчаслівых і нешчаслівых днях нараджэння. Нешчаслівымі лічыліся панядзелак і серада:

**У панядзелак радзілася,**
**Гора, маё гора,**
**За старога я пайду,**
**Барадой заколе.**

Або:

**Я ў сераду радзілася,**
**Гора, маё гора,**
**Кажэ маці валы гнаці**
**На чужое поле.**

Шчаслівымі лічыліся субота, нядзеля, асабліва ў красавіку і маі. Праўда, як піша А. Баршчэўскі, народжаныя ў нядзелю, на думку сялян, прыгожыя і зграбныя, але лянівыя.

Апісваецца ў манаграфіі адзін з цікавых радзінна-хрэсьбінных абрадаў — адведкі (або адведзіны), калі блізкія суседкі, сяброўкі наведвалі парадзіху і прыносілі з сабой прадукты, адзенне, бялізну для нованароджанага і інш.

Важнейшым у радзінна-хрысціннай абраднасці было хрышчэнне дзіцяці, якое ажыццяўлялася ў царкве хрышчоным бацькам і маці. Там жа давалася імя дзіцяці. А. Баршчэўскі прыводзіць камічны выпадак, які адбыўся ў вёсцы Альхоўка, калі кум і кума забыліся імя дзіцяці, якое прапаноўвалі бацькі, і хлопчыку далі імя Васіль, а потым выявілася, што яго старэйшы брат ужо мае такое імя. А ў Вялікіх Тыневічах адзве сястры былі названы адным імем — Яўгеня (с. 41).

Апошнім акордам радзіннахрэсьбінных абрадаў даследчык назваў бяседу. Хрэсьбінная бяседа суправаджалася разнастайнымі песнямі, тостамі, зычэннямі, многія з якіх прыводзяцца ў кнізе. У песнях славіцца маці дзіцяці:

**Ой, наша Марына**
**Нарадзіла сына:**
**Сына як дубочка,**
**Падобнага на мужа.**
(с. 42).

## ПАГЛЫБЛЕНАЕ ВЫВУЧЭННЕ РОДНАЙ МОВЫ

# СТВАРАЕЦЦА ГУМАНІТАРНЫ ЦЭНТР

Працэсы адраджэння беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і культуры напаўняюцца новым зместам, яны сёння ў цэнтры ўвагі ўрада рэспублікі. Сведчанне таму — нядаўна прынятая пастанова Савета Міністраў Беларусі аб арганізацыі Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра.

Асноўнымі задачамі цэнтра з'яўляюцца мэтанакіраваны падбор і навучанне ў пазаўрочны час вучняў 8-11 класаў сярэдніх школ, прафесіянальна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, студэнтаў ВНУ і — у вольны ад работы час — іншых асоб, якія праявілі схільнасць і жаданне да паглыбленага вывучэння беларускай мовы, культурнай спадчыны рэспублікі.

Чым канкрэтна будзе займацца беларускі цэнтр, якія асноўныя напрамкі яго работы? Аб гэтым расказвае дырэктар цэнтра Уладзімір Колас:

— Гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр — гэта ўстанова новага тыпу, галоўная мэта якой — выхаванне будучай беларускай творчай і гуманітарнай інтэлігенцыі, а таксама правядзенне вучэбна-метадычнай, навуковай работы, накіраванай на расшырэнне выкарыстання беларускай мовы ў сферы адукацыі рэспублікі, падрыхтоўка навучэнцаў да паступлення ў навучальныя ўстановы гуманітарнага профілю...

У саставе цэнтра — нядзельны ліцэй, дзе навучэнцы ў вольны ад вучобы і работы час змогуць атрымаць веды па ўсіх аспектах гісторыі і культуры Беларусі. Дапамогуць ім у гэтым вядомыя дзеячы навукі і культуры рэспублікі, вопытныя выкладчыкі-гуманітарыі. У састаў цэнтра таксама ўваходзіць кінавідэастудыя, якая прадугледжвае выпуск вучэбных фільмаў, відэаслайдаў па заказах Міністэрства народнай адукацыі. Ёсць выдавецкая рэдакцыя, дзе слухачы будуць, у асноўным, займацца падрыхтоўкай да друку і выданнем падручнікаў, курсаў лекцый для ліцэя, выпускам літаратурнага лістка, перакладам лепшых дзіцячых твораў зарубежнай літаратуры на беларускую мову.

## У ПАСЁЛКУ — КАРЦІННАЯ ГАЛЕРЭЯ

У пасёку Акцябрскі адкрылася карцінная галерэя пад эгідай Міністэрства культуры БССР. Карцінная галерэя мае тры ўтульныя выставачныя залы. У першай з іх размясцілася калекцыя з 35 палотнаў вядомага земляка, доктара мастацтвазнаўства, прафесара Л. Дробава, ураджэнца вёскі Растаў. Гэта дар ад шчырага сэрца Леаніда Ніканоравіча ўсім жыхарам раёна.

У дзвюх іншых залах знаходзяцца карціны, напісаныя мастакамі нашай рэспублікі, па матывах жыцця легендарнай Рудабельскай рэспублікі, як раней называлася Акцябршчына. Сярод іх — нямала партрэтаў вядомых людзей раёна.

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ






Выстаўка «Салавецкія лагеры асобага прызначэння 1923—1939» адкрылася ў Мінску, у Траецкім прадмесці. Яна складаецца з трох раздзелаў. Першы — у каляровых фатаграфіях расказвае аб сённяшнім дні Салаўкоў, другі — асноўны — выкананы ў форме барака, а подыумамі для экспанатаў служаць будаўнічыя насілкі. У экспазіцыі гэтага раздзела ўвайшлі рэчы, дакументы, фатаграфіі, прадстаўленыя былымі зняволенымі і іх сваякамі, а таксама рэчы, знойдзеныя ў былым штрафным ізалятары, які размяшчаўся ва Узнясенскай царкве. Апошні раздзел расказвае аб рабоце ўсесаюзнага таварыства «Мемарыял».

НА ЗДЫМКАХ: так пачынаецца другі раздзел; экспазіцыя пабудавана на кантрастах; лагерныя «грошы».

Фота А. ТАЛОЧКІ.


Лагери Особого Назначения ОГПУ
РАСЧЕТНАЯ КВИТАНЦИЯ
КОПЕЕК 5 КОПЕЕК
Член Коллегии ОГПУ СССР
Начальник Финотдела ОГПУ
1929

Выказваецца пажаданне нованароджанаму «расці як дубочку», быць разумным. Зычэнні выказваліся і ў тостах. Адрасаваліся яны бацьку, маці і дзіцяці. У большасці тосты, як і многія песні, мелі гумарыстычны характар: «Расці у шчасці наша дзяціна, красуй, як тая у полі каліна».

А вось урывак з жартоўнай песні, змешчанай у манаграфіі:

**Чы я табе не казала,**
**Чы не гаварыла,**
**Не лягай разам спаці,**
**Бо будзе Гаўрыла.**
**А ты мяне не пытаў,**
**Каля мяне клаўся,**
**А цяпер пытаешся,**
**Скуль Гаўрыла ўзяўся.**

(с. 43).

Нямала аналізуецца песень, галоўнымі персанажамі якіх паўстаюць кум, кума, бабка. У заключэнне разгляду абрадаў і песень, звязаных з нараджэннем дзіцяці, даследчык адзначыў, што ў іх захаваліся рэшткі тых жа самых магічных функцый і сімвалічных значэнняў, якія былі характэрны для пачатковай абраднасці, узнікшай у далёкім мінулым.

Яшчэ больш месца адвёў у сваёй кнізе даследчык вясельнай абраднасці. І гэта не выпадкова. Вясельныя абрады і звычаі, песні, прыпеўкі, прыгаворкі добра захаваліся ў памяці беларусаў, а часам нават і сёння яшчэ бытуюць. А. Баршчэўскі адзначае, што вясельная абраднасць на Беласточчыне і па сваёй кампазіцыйнай спецыфіцы, і па тэматыцы не адрозніваецца ад агульнай беларускай. Яму спадабаўся выраз Р. Шырмы, які назваў беларускае вяселле «своеасаблівай народнай операй з пралогам, драматычнай кульмінацыяй і заўсёды шчаслівым заканчэннем. Народ стагоддзямі дасканаліў, калі можна так назваць, лібрэта гэтае оперы, якая надзвычай багата насычана спевамі, музыкай, танцамі, вострым дыялогам, гумарам». Даследчык выкарыстаў працы М. Грынблата, М. Доўнар-Запольскага, матэрыялы, сабраныя сярод беларускіх жыхароў Беласточчыны, прааналізаваў апісанні вясельнай абраднасці, асэнсаваў іх і вызначыў асноўныя элементы вясельнага абраду Беласточчыны: даведванне, сваты, агледзіны, замовіны, заручыны, паненскі вечар, каравай, пасад, успамаганне, вянок, шлюб, вясельная бяседа, перапіванне, ад'езд да дома маладога, вясельная бяседа ў доме маладога, прыданне, упавіванне, пакладзіны, перазовіны. Кожны з гэтых элементаў у асноўных рысах ахарактарызаваны. У некаторых выпадках больш увагі надаецца абрадавым дзеянням, у іншых — разгляд вясельных звычаяў спалучаецца з аналізам песень, прыпевак, прыказак, прыгаворак, прыкмет, павер'яў.

Аўтар адзначае, што ўсе этапы вяселля, пачынаючы ад замовін, увесь рытуал, за выключэннем царкоўнага вянчання, адбываўся з удзелам капэлы або аднаго гарманіста. Спевы спалучаліся з інструментальнай музыкай. Ён правільна вызначае велізарную ролю музычнага фальклору ў яднанні элементаў вясельнага абраду ў адзінае цэлае. «У вясельным абрадзе на Беласточчыне яшчэ да нядаўняга часу выконвалася шмат элементаў музычнага фальклору ў песнях і танцах; у музыцы знайшло адбітак духоўнае і мастацкае жыццё беларускага народа», — падкрэслівае даследчык у завяршэнні разгляду вясельнай абраднасці беларусаў Беласточчыны.

Апошні раздзел кнігі прысвечаны характарыстыцы абрадаў, звязаных са смерцю і пахаваннем чалавека. Прыводзяцца найбольш тыповыя галашэнні (па структуры і зместу) — галашэнні маці па дачцэ, дачкі — па маці, жонкі — па мужу, па сіраце, а таксама апакрыфічная песня. Выкарыстаўшы багаты матэрыял, аўтар прачула асвяціў сумны абрад развітання з памёршым чалавекам, раскрыў асаблівасці вераванняў, якія адбіліся ў імправізацыйных галашэннях і духоўных песнях.

У заключэнні аўтар тэарэтычна асэнсаваў і абагульніў свае разважанні аб сямейнай абраднасці і паэзіі беларусаў Беласточчыны.

Упершыню напісана грунтоўная манаграфія, прысвечаная сямейнай абраднасці і паэзіі беларусаў рэгіёна, у якім іх духоўнае жыццё ва ўмовах іншага моўнага этнакультурнага асяроддзя не магло не адбіцца на захаванасці нацыянальных абрадаў і нацыянальнай паэзіі. Тым не менш у абрадах і паэзіі беларусаў Беласточчыны пераважае агульнабеларускае і менш адметнае, мясцовае.

Манаграфія А. Баршчэўскага — значная з'ява ў славязнаўстве, гэта сведчанне таго, што яго талент даследчыка ў росквіце творчых сіл.

У юбілейны для Аляксандра Баршчэўскага год хочацца пажадаць яму новых кніг, новых вершаў і ўвогуле вялікага плёну ў навуковай, педагагічнай і творчай паэтычнай працы.

**Анатоль ФЯДОСІК.**

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

### ПАЛЯВАННЕ КАРАЛЕВЫ БОНЫ

**Паліць вусны пыл, як воцат.**
**Пушча. Коні. Зброі ззянне.**
**Каралева Бона Сфорца**
**Пачынае паляванне.**

**Як пылаюць шчокі ярка**
**І ў вачах пыхлівасць стыне**
**Белай Русі валадаркі**
**З валасамі залатымі!**

**Вось абапал гордай Боны**
**Рыцары — ліцвінскі з ляшскім;**
**Закаханыя абодва**
**Без надзей зусім на ласку.**

**І дарма так прагна ловяць**
**Вої позірк каралевы;**
**Спеліць плод яе любові**
**Залатой улады дрэва.**

**Толькі — улада. Дзеля ўлады —**
**Трубіць рог, палае сэрца.**
**І загнаны звер калматы**
**Са стралою ў горле б'ецца.**

**Толькі ўлада! І жанчына**
**Арбалет трымае цвёрда;**
**І тужлівы рык звярыны**
**Паляванню — ўзнагарода.**

**І — чуйдух!**
**Ахвярай новай**
**Будзе воўк і новы рыцар,**
**І ў кароне яснай Боны**
**Промняў больш пачне іскрыцца.**

**Каралева едзе конна**
**Белавежскаю дарогай,**
**Не кахаючы нікога,**
**Не шкадуючы нікога.**

**Рог турыны — голас боскі...**
**Вецер шлейф матляе вузкі...**
**...Справа плача — рыцар польскі,**
**Злева — рыцар беларускі...**

### САКРЭТ ПРЫГАЖОСЦІ

**Знайшлі сакрэт Страдзівары:**
**Каб скрыпка была жывою,**
**Ён клаў вулканічны попел**
**Грунтоўкай пад чысты лак.**
**І скрыпка маніла марай,**
**І гукі грымелі морам,**
**І музыка грознымі кроплямі,**
**Як лава, са струн цякла.**
**Шаноўныя навукоўцы!**
**Навошта ж гадаць-прарочыць,**
**Адкуль у майго народа**
**Песень велічны звон,**
**Адкуль набраліся моцы**
**Купала і Багдановіч!**
**Гэта ўсё той жа попел,**
**Попел — пад хараством.**
**Бо гэтулькі ў нас згарае**
**Ве[illegible]ных даўніх ценяў,**
**[illegible]сці і імкненняў,**
**Та[illegible]нтаў і надзей,**
**Што чорны агонь вулкана**
**Кожны носіць у сэрцы,**
**І муры ацалелыя**
**Святлей, чым думкі людзей.**
**Бо гэтулькі ў нас ахвочых**
**Будаваць на костках,**
**Лакіраваць апёкі,**
**Задраўшы насы, ісці,**
**Што самай цямнюткай ноччу**
**Мы не ўяўляем, колькі**
**Попел займае горкі**
**Месца ў нашым жыцці.**

**Хведар ГУРЫНОВІЧ**

### ЗДРАДА

**Па следу ганяюся воўчым**
**Праз грывы, ірвы, астраўкі**
**І з раніцы самае крочу**
**Па беразе белай ракі.**

**Ён слізгае чуйна чубамі**
**Кустоўя**
**І тоне ў імхах.**
**— Даруй, сваякоў не чапаю,—**
**Ганчак мой хвастом памахаў.**

**Ікластага дужага вепра**
**Ён трапным кідком даставаў,**
**На карак ушпільваўся зверху,**
**А перад ваўком спасаваў.**

**Чаго ж ты пагоні не рады**
**І пысай трасеш у бакі.**
**Баішся, што даўняе здрады**
**Табе не даруюць ваўкі!**

**За мною ты сцелешся ценем**
**З ліслівай сваёй дабратой,**
**А ў воўчым няскораным целе**
**Нянавісць кіпіць да братоў.**

**Ім поўсць выдзірае ажыннік,**
**Ім лапы казыча пясок.**
**А ты прамяняў на ашыйнік**
**Такую свабоду, браток.**

**Віляеш хвастом вінавата**
**І думаеш аб ланцугу...**
**Прабач, але воўчага брата**
**Пазнаць я ў табе не магу.**

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# ЦІ БУДАВАЎ ПЕТРЫКАЎ ЯЦВЯГ ПЁТР?

Аднойчы давялося пачуць даволі цікавы факт: быццам бы наш надпрыпяцкі Петрыкаў заснаваны аж у X стагоддзі. І яго пачаткі звязаны з легендарным князем яцвягаў Пятром. Па ўсім было відаць, што гэткае сцвярджэнне грунтуецца на старажытным мясцовым паданні. А паколькі такога падання не адзначана ні ў адным з сучасных збораў беларускага фальклору, трэба было звярнуцца да архіўных крыніц, да нарысаў дарэвалюцыйнага часу. Скажам адразу: вялікага падання з падрабязным сюжэтам мы не знайшлі. Адшукалася толькі ўжо знаёмае сцвярджэнне аб заснаванні Петрыкава яцвяжскім князем Пятром. Аднак за адным разам прыадкрылася для нас шмат цікавага ў старадаўняй гісторыі Петрыкава. Аб гэтым ёсць сэнс расказаць больш-менш падрабязна.

Перш за ўсё, давайце прасочым, наколькі верагоднай з'яўляецца версія аб заснаванні горада ў X стагоддзі. Археалогія як быццам дае адмоўны адказ: у наваколлі Петрыкава наогул няма ніякіх археалагічных помнікаў. Праўда, няма і сведчанняў аб тым, што якая-небудзь археалагічная разведка тут праводзілася. Таму, відаць, не трэба спяшацца сцвярджаць, што ў старажы[illegible]ускі час на месцы Петр[illegible]а шумелі векавыя сосны і наведвалі гэтыя мясціны толькі дзікія звяры. Нельга забываць, што побач была Прыпяць, водны шлях па якой справядліва лічыцца адным з найстаражытнейшых у [illegible]йшых краях.

Дарэвалю[illegible]ныя рускія і польскія гісторыкі не сумняваліся, што ў парэччы Прыпяці, ад Мазыра да Пінска, у перыяд утварэння і існавання Старажытнарускай дзяржавы тут былі пасяленні яцвягаў. Гэты народ, які належаў да заходнебалтыйскай групы плямён, з'яўляўся актыўным удзельнікам усходнеславянскай гісторыі на працягу трох стагоддзяў — з канца X да канца XIII. Аб жыцці яцвяжскага народа, аб яго самаадданай барацьбе за незалежнасць з войскамі крыжаносцаў, дружынамі польскіх і рускіх князеў, аб яго трагічным лёсе можна было б складваць легенды. У канцы XIII стагоддзя яцвягі былі канчаткова знішчаны крыжаносцамі, асіміляваны каланізацыйнымі патокамі славянскага насельніцтва. Рэшткі яцвягаў пражывалі ў заходніх раёнах Беларусі да XIX стагоддзя. «Живописная Россия», напрыклад, указвае невялікую колькасць яцвягаў у Беластоцкім, Бельскім і ў частцы іншых паветаў былой Гродзенскай губерні. Памяць аб гэтым народзе засталася ў выглядзе цікавых моўных фактаў.

Дык вось, раней лічылася, што паўднёвыя межы яцвяжскай зямлі знаходзіліся на Прыпяці. Галоўнымі пасяленнямі яцвягаў абвяшчаліся Мазыр, Петрыкаў, Тураў, Давыд-Гарадок, Пінск. Відаць, гэтыя ўяўленні XIX стагоддзя і абумовілі нараджэнне штучнага падання аб заснаванні Петрыкава яцвяжскім князем Пятром.

У сучаснай навуцы ўстаноўлена: тэрыторыя яцвягаў размяшчалася ў міжрэччы Нарава і Нёмана. З гэтым згодны большасць савецкіх і польскіх даследчыкаў. Што ж датычыць беларускага Палесся, то яно не ўваходзіла ў склад асноўнай яцвяжскай тэрыторыі. Групы яцвяжскіх перасяленцаў жылі ў самых заходніх палескіх раёнах, у тых, якія ўваходзілі ў склад так званага Падляшша. У парэччы Прыпяці яцвягаў не было ніколі.

Нам невядомы дакладна імёны яцвяжскіх князёў. Аднак нельга згадзіцца з тым, што мяркуемага яцвяжскага правадыра звалі Пятром. Яцвягі былі і засталіся назаўсёды язычнікамі, хрысціянства яны не прынялі, змагаліся з гэтай рэлігіяй, якую неслі ім агнём і мячом крыжаносцы і славянскія князі. Хрысціянскае ж імя Пётр рэгіструецца ў пісьмовых крыніцах толькі з XVI стагоддзя. Гэтая акалічнасць дае падставы сумнявацца ў паходжанні геаграфічнай назвы Петрыкаў ад асабовага імя, не абавязкова князя, а кожнага іншага чалавека. Справа ў тым, што Петрыкаў упамінаецца ўпершыню ў XV стагоддзі, калі аб імені Пётр не магло быць і гаворкі.

Праўда, фармальна найменне Петрыкаў быццам бы ўтворана не столькі ад імя **Пётр**, колькі ад асабовага імя **Петрык (Петрыкаў).** На гэта, зноў-такі фармальна, указвае і суфікс -аў, які часта называюць суфіксам прыналежнасці, у даным выпадку — прыналежнасці мясцовасці Петрыкаў нейкаму Пятру-Петрыку. Аднак гэтая акалічнасць справы не мяняе: ні імя **Пётр**, ні яшчэ больш позняя яго форма — **Петрык** ніяк не маглі быць асновай для ўзнікнення разглядаемай геаграфічнай назвы.

Нас спецыяльна цікавіла загадка назвы Петрыкава. Не будзем стамляць чытача складанай паслядоўнасцю пошукаў і доказаў, якімі мы карысталіся, каб разгадаць гэтую загадку. Раскажам толькі аб канечным этапе пошуку.

Аналогіі з іншымі старажытнымі гарадамі Беларусі паказваюць, што населеныя пункты на буйных водных артэрыях часта ўзнікалі на месцы сутокаў галоўнай ракі і невялікага прытока. На такіх месцах былі заснаваны Полацк, Віцебск, Гомель, Магілёў, Чачэрск, Гродна, Орша, Рагачоў, некаторыя іншыя гарады. Цікава, што Полацк, Чачэрск, Віцебск, Орша пры гэтым атрымлівалі свае назвы якраз ад наймення маленькіх рачулак.

Пошукі ў нашым выпадку прывялі да цікавых фактаў. У Брагінскім раёне існуе вёска **Петрыцк**, ці **Петрыцкае**, назва якой па сваёй форме прымушае лічыць яе ўтворанай ад рачнога імя. У басейне Дняпра мы знайшлі рэчку **Потрыца**, ці **Патрыца**. А калі пачалі «падарожнічаць» па карце, то адшукалі ў басейне ракі Масквы прыток **Петрыцу**, а ў басейне Акі — возера **Педрына**. Гэта былі ўжо добрыя вынікі.

Яны дазвалялі меркаваць, што рэчка з падобнай назвай — **Петрыца** ці магчыма **Петрыч** — існавала ў наваколлі Петрыкава пры яго ўзнікненні, а потым па нейкіх абставінах знікла. Згубілася і яе назва, але «сляды» яе адлюстраваліся ў найменні таго пасялення, якое паступова расло побач. Дарэчы, нядрэнна было б, калі б петрыкаўскія краязнаўцы пашукалі старое рэчышча былой рэчкі. Упэўнены, што

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**



**«Цудоўная толькі любоў да жывёл, якая спараджаецца любоўю да ўсякага жыцця і ў аснове якой ляжыць любоў да людзей». Гэту глыбокую думку, якая належыць славутаму аўстрыйскаму вучонаму Конраду Лорэнцу, стваральніку навукі аб паводзінах жывёл, падзяляе Жанна Марудава — трэнер па коннаму спорту саўгаса «Рудакова» Віцебскага раёна. Для яе жывёліны — гэта не толькі работа. Гэта і хобі, якое дорыць многа радасці.**

**НА ЗДЫМКУ: Жанна МАРУДАВА на прагулцы са сваімі любімцамі.**

**Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.**

# ЦІ БУДАВАЎ ПЕТРЫКАЎ ЯЦВЯГ ПЁТР?

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

яны знайшлі б яго ў межах сучаснага горада. Нашаму меркаванню аб паходжанні назвы **Петрыкаў** ад імя былой рачулкі **Петрыца (Петрыч)** не перашкаджае наяўнасць у назве горада суфікса **-аў**. У мінулым гэты суфікс актыўна ўтвараў не толькі геаграфічныя найменні ад асабовых імён і прозвішчаў, але і тапонімы з першапачатковым тапаграфічным значэннем, якія ўказвалі на прыродныя асаблівасці мясцовасці.

Ёсць падставы лічыць, што Петрыкаў узнік не ў XV стагоддзі (тады ён упершыню з'явіўся ў пісьмовых помніках), але значна раней, магчыма, нават у X—XI стагоддзях (можа стацца, што нагаданае вышэй паданне ў гэтым аспекце адпавядае рэальнасці), калі ў парэччы Прыпяці рассяліліся і будавалі свае цэнтры дрыгавічы-дулебы — вядомае з летапісаў племяннное аб'яднанне ўсходніх славян.

Ёсць яшчэ адзін факт, які пацвярджае нашу версію аб узнікненні назвы **Петрыкаў**. Польскі храніст Мацей Стрыйкоўскі, гаворачы пра бітву з крымскімі татарамі пад Клецкам у 1506 годзе, згадвае мястэчка **Петрыковічы** ў складзе Слуцкага княства.

Па сваёй форме назва **Петрыковічы** — відавочнае ўтварэнне ад абагульненага абазначэння, ці так званай «калектыўнай мянушкі жыхароў населенага пункта **петрыковічы**, ці **петрыкавічы**. Такая калектыўная мянушка першапачаткова ўказвала на месца пасялення людзей і мела тапаграфічнае значэнне, менавіта «людзі, якія жывуць на Петрыцы, Петрычы». Цікава, што на ўкраінскім Палессі існуе аднатыпны тапонім **Петрычы**. Украінскія тапаністы тлумачаць яго таксама ад абагульненага абазначэння жыхароў — **петрычы**, якое ў сваю чаргу разумеецца наступным чынам: «людзі, якія жывуць «під рікой», гэта значыць «каля ракі».

У XV стагоддзі, калі Петрыкаў адзначаецца ў пісьмовых крыніцах, ён знаходзіўся ў складзе Вялікага княства Літоўскага і належаў аднаму з самых значных родаў таго часу — князям Алелькавічам. Гарадок на Прыпяці, як можна меркаваць, быў адной з гандлёвых кропак у былым Слуцкім княстве, а з 1507 года — у Навагрудскім ваяводстве. Гэтым, відаць, і тлумачыцца пабудова ў Петрыкаве замка-крэпасці князем Юрыем Алелькавічам. Можна меркаваць, што крэпасць з'явілася на рубяжы 20—30-х гадоў XVI стагоддзя. Аднак даволі хутка гэтай крэпасці не стала. Драўляныя яе ўмацаванні не вытрымалі аблогі, агню і пажару ў час вайны маскоўскага цара Васілія IV з Вялікім княствам Літоўскім. У 1535 годзе маскоўскія войскі пад камандаваннем князя Аўчыны-Целяпнёва-Абаленскага знішчылі петрыкаўскую крэпасць і спалілі горад. Але неўзабаве ён зноў адбудаваўся. І тут, як і раней, існаваў замак, аб чым сведчаць далейшыя звесткі аб Петрыкаве.

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР у фондзе князёў Радзівілаў ёсць дакумент, змешчаны ў так званых кнігах гродскіх, ці замкавых Слонімскіх. На гэтым дакуменце дата — 6 ліпеня 1582 года. У ім ідзе гаворка аб раздзеле ўладанняў паміж братамі — князямі Юрыем, Янам-Сымонам і Аляксандрам Алелькавічамі па запавету бацькі. Князь Аляксандр атрымаў населеныя пункты ў Слуцкім і Мінскім паветах, а таксама ў Мазырскім павеце — **валасць і замак Петрыкаў**, двор Колна з мястэчкам Ленін, валасць Добра-Дзярэўскую і Юдзінаўскую.

Праз 13 гадоў у горад зноў прыйшла вайна. У канцы 1595 года ў напрамку Петрыкава з Правабярэжнай Украіны рухаліся казацкія атрады Севярына Налівайкі, які ўзняў паўстанне супраць прыгнёту феадалаў. Да казакаў хутка далучыліся мясцовыя сяляне і дробная шляхта. Петрыкаў быў захоплены. Потым паўстанцы захапілі Слуцк і Магілёў. А ў 1596 годзе, адступаючы пад націскам урадавых войск, Налівайка зноў апынуўся на Палессі, зноў узяў Петрыкаў, разарыў таксама Тураў, Давыд-Гарадок і Пінск і пайшоў на Валынь.

З XVII стагоддзя ў Петрыкаве — новыя гаспадары графы Хадкевічы, многія з якіх займалі дзяржаўныя і адміністрацыйныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім. У 1776 годзе Хадкевічы выклапаталі сабе прывілей у польскага караля Станіслава-Аўгуста, згодна з якімі ў Петрыкаве аж да пачатку XX стагоддзя збіраліся вялікія кірмашы для продажу і купілі рагатай жывёлы, коней, рыбы і розных хатніх вырабаў. Кірмашы збіраліся два разы на год — 20 ліпеня і 1 кастрычніка.

У пачатку XX стагоддзя Петрыкаў быў упершыню падрабязна апісаны ў кнізе «Россия. Полное географическое описание нашего Отечества». Вось цытата з гэтай працы: «У Петрыкаве ёсць драўляны касцёл Благавешчання, пабудаваны ў 1638 годзе Кшыштафам Хадкевічам; дзве праваслаўныя царквы, вясковая школа, станавая кватэра і яўрэйская сінагога. Маёнтак Хадкевічаў змяшчае ў сабе 720 валокаў добрай зямлі і шмат сенажацей, вінакурны завод і млыны. Мястэчку таксама дае значны даход рыбалоўства. У Петрыкаве налічваецца да 400 двароў і звыш 3 тысяч жыхароў, якія займаюцца галоўным чынам шавецтвам. Яны ўвогуле адрозніваюцца прадпрымальным характарам; некаторыя з іх возяць лес, а многія займаюцца і рыбнай лоўляй. У Петрыкаве ёсць прыстань на Прыпяці, на якой выгружаюцца параходы, што плывуць знізу. Усіх грузаў (хлебных і лясных) адсюль адпраўляецца да 100 тысяч пудоў, а прыбывае сюды да 30 тысяч пудоў».

Гэтымі звесткамі завяршаецца старадаўняя гісторыя Петрыкава, у якой яшчэ шмат белых плям, бо складаецца яна, як мы бачылі, пакуль толькі з асобных эпізодаў.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ, кандыдат філалагічных навук.**

## СПОРТ

ШАХМАТЫ. Савецкія гросмайстры атрымалі камандную перамогу на Сусветнай алімпіядзе ў Югаславіі. Залатым медалём узнагароджаны і мінчанін Барыс Гельфанд, які не прайграў ніводнай партыі.

**КАНЬКІ.** Пачалася шматэтапная барацьба за Кубак свету. Беларускі спартсмен Ігар Жалязоўскі на дыстанцыі 1 000 метраў заняў трэцяе месца на спаборніцтвах у Галандыі.

**БАРАЦЬБА КЛАСІЧНАЯ.** Чарговы раз выйшла пераможцай Кубка свету ў Швецыі каманда СССР. За яе выступалі два прадстаўнікі нашай рэспублікі: Шамсутдзін Абасаў і Камандор Маджыдаў.

**ГАНДБОЛ.** Спартсменкі нашай краіны занялі першае месца на чэмпіянаце свету, які прайшоў у Сеуле. У фінале яны перамаглі югаславак. Нядрэнна на гэтых спаборніцтвах выступіла за зборную СССР мінчанка Святлана Мінеўская.

Лепшы бамбардзір першынства свету-90 Аляксандр Тучкін запрошаны выступаць за клуб ТУСЕМ (Эсэн). Ужо ў першым матчы першынства Германіі мінчанін быў лепшым на пляцоўцы і закінуў у вароты сапернікa — «Мільбертсхофена» шэсць мячоў.





**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63854. Зак. № 1670.